# АРХІПАСТЫРСКАЕ ВЯЛІКОДНАЕ ПАСЛАНЬНЕ
## Дастойнаму Сьвятарству й усім Багалюбным Вернікам Народу Беларускага

*„Яго няма тут: Ен уваскрос; прыпомніце, як Ен казаў вам, калі быў яшчэ ў Галілеі." (Лук.24–6)*

ХРЫСТОС УВАСКРОС!

Дарагія Браты й Сёстры нашыя!

Сёньня мы радасна сьвяткуем найвялікшае сьвята хрысьціянскае Царквы – Сьветлае Уваскрасеньне Хрыстовае. Нявымоўная краса й значэньне таго сьвята ў тым, што яно нібы сонца, якое разганяе цёмныя хмары, напаўняе душу сапраўднага хрысьціяніна вялікаю радасьцю, і абдарвае яе вялікімі надзеямі.

Уваскрасеньне Хрыста ёсьць крыніцаю ўсяго нашага жыцьця, бо як бы чалавек ня быў абцяжаны грахамі, аднак у яго ёсьць надзея на спасеньне, бо Хрыстос пайшоў на крыж, аддаў Сябе за ўсіх нас (РЫМ.8,32) дзеля Свае любові да нас... (Эф.5,2).

Нявымоўная надзея таго Сьвята і ў тым, што яно быццам Сонца, якога праменьні пранікаюць праз цёмныя хмары, напаўняе душу хрысьціяніна сьветлаю радасьцю да міласэрдзьзя й шчадрот.

Уваскрасеньне Хрыстова было вялікаю радасьцю ня толькі для Жонаў Міраносіцаў, бо ім першым зьявіўся Хрыстос, але й для Апосталаў, якія забыўшыся пра мукі Госпада, пра зьнявагу Іхнага Настаўніка, пра перажыты імі страх, сьмела пайшлі тою дарогаю, якую вызначыў ім Хрыстос Бог.

Уваскрасеньне Хрыстова ёсьць перамогаю над сілаю злыдняў, якія хоць і ў сучаснасьці існуюць і не спыняюць свае руйніцкае дзейнасьці, але яны ўжо не ўсёўладныя, бо ня маюць сілы каб перамагчы чалавека, які верыць у Праўду й ідзе згодна Хрыстовае навукі.

Праўда, у сучаснасьці гэтая радасьць нашая яшчэ ня поўная, нашыя сэрцы баляць яшчэ, што мы раз'едданыя, што наш пакутны народ усё яшчэ нераджывае Галгофу, аднак бязбожная стража ўжо дрыжыць пры гробе, бо бачыць што наш народ на бацькаўшчыне адчувае ўжо прыход трэйцяга дня, свайго ўваскрасеньня, і ўзмацняе сілы веры ў Хрыста, Бога, і Спаса нашага, і разам з намі ўсклікае: *ХРЫСТОС УВАСКРОС!*

Няхай-жа нашыя сьветлыя надзеі запаланеюць у нашых сэрцах ня толькі ў часе Вялікодных Сьвятаў, але й назаўсёды. Няхай яны будуць пацехаю для тых, што сумуюць, што нясуць свой цяжкі крыж. А асабліва няхай будзе пацехаю тым, што цяпер церпяць за любоў да Бога, за Беларускі народ!

Хрыстос Уваскрос! Радуймася й праслаўляйма Уваскросшага Бога, Які дараваў жыцьцё й свабоду ўсім, хто веруе ў Яго.

Радуймася й весялімся так, як радавалася Маці Божая, калі Ей апавясьціў Ангел – Радуйся, Твой Сын Уваскрос на трэці дзень з Гробу. Радуймася так, як радаваліся Жоны Міраносіцы, калі прыбеглі да Апосталаў і апавясьцілі ім, што Хрыстос Уваскрос!

Гэткае радасьці жадаем Вам Улюбёныя ў Хрысьце Браты й Сёстры й заклікаем непахісна бараніць Праваслаўную Веру да апошняе перамогі Праўды на сьвеце, Якую запэўніў нам Сваім Сьветлым Уваскрасеньнем Госпад наш Ісус Хрыстос.

Гуртуймася ўсе, пры сваёй Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царкве. Шануйма Яе, як сваю Родную Матку, а не руйнуйма Яе! Тады Госпад Бог наш пашле нам вялікую Ласку й Дар Сьв. Духа й скажа: „Слухайце голасу Майго й будзеце народам Маім." (Ерам.7,23).

Мы ведаем, што жывём у пераходных часох і абставінах вялікага маральнага крызісу для ўсяго чалавецтва. Хопіць азірнуцца навокала, каб убачыць несправядлівасьць, якая чыніцца ў сусьветным маштабе, хопіць выйсьці на вуліцу гораду, каб убачыць, што Міласэрдзе Божае яшчэ не пранікнула ў чалавечыя сэрцы, што няма там дараваньня, бо людзі, што завуць сябе хрысьціянамі, яшчэ далёка знаходзяцца ад Хрыста.

З гэткімі нашымі разважаньнямі й думкамі ды шчырымі пажаданьнямі супакою, любові й згоды Вітаем Вас Усячэсныя Пастыры й улюбёныя Вернікі ў Хрысьце з Вялікім і радасным Сьвятам Уваскрасеньнем Хрыстовым. Няхай Ен Уладар Сусьвету, напоўніць вас радасьцяй і натхненьнем, каб запанавала сярод усіх нас палымянная братэрская любоў.

Уваскрасеньне Тваё, Хрысьце Спасе, Ангелы паюць на нябёсах: і нас на зямлі ўдастой чыстым сэрцам Цябе славіць!

Ласка й любоў Госпада нашага Ісуса Хрыста й прычасьце Сьвятога Духа няхай будзе з усімі Вамі, цяпер і ўсечасна й павек вякоў.

*Вялікдзень* *Лета Божага 1981*

З Ласкі Божае

Пакорны ў Богу +Мітрапаліт Андрэй

Пакорны ў Богу +Япіскап Ізяслаў

# Прывітаньні Нова-пастаўленаму Япіскапу Ізяславу

### Ад Рады Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы ў Вялікай Брытаніі

Пачэснаму ІЗЯСЛАВУ
Япіскапу Б.А.П.Ц.

Пачэсны Уладыка!

Рада, Настаяцель і Вернікі Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы ў Вялікай Брытаніі, шчыра вітаюць Вас за прынятыя на сябе абавязкі, для службы БАПЦ у сане Япіскапа.

Мы вельмі цешымся, што БАПЦ пабагацела яшчэ адным Япіскапам, ведаючы вельмі добра, што шлях вымаганы мае вельмі шмат цярністае працы.

Мы жадаем Вам ад шчырага сэрца, Пачэсны Уладыка, як найлепшых посьпехаў у будучай працы.

Дапамагай Вам Божа й захавай Вас на даўжэйшую будучыню.

Мы застаёмся Вашыя пакорныя вернікі!

З належнаю да Вас пашанаю,

*Мітр. Прат. а. Янка АБАБУРКО*
Прэзыдэнт Рады БАПЦ

*Хв. КАЖАНЕВІЧ*
Старшыня

*Янка КАЛБАСА*
Сакратар

### Ад Беларускай Незалежнай Думкі Беларусаў Паўночнай Англіі Гурток Васілька

Пачэснаму Ізяславу
Япіскапу Б.А.П.Ц. у З.Ш.А.

Пачэсны Уладыка!

Сьвяткуючы 63-я Угодкі Абвешчаньня Дзяржаўнае Незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі, сябры й управа „Гуртка Васілька" Незалежнае Думкі Беларусаў Паўночнае Англіі ў Брадфардзе прынялі вясёлую вестку, што Вы прынялі на сябе абавязкі Япіскапа БАПЦ.

Мы вельмі цешымся й віншуем Вас, жадаючы плённае рэлігійна-грамадзкае працы на карысьць БАПЦ і Беларускага Народу.

Дапамагай Вам Божа й захавай на многія лета!

Застаёмся пакорныя Вам вернікі й просім Благаслаўленьня.

З належнаю да Вас пашанаю,

*Янка КАЛБАСА* *Міхась ВІЦЭНЧЫК*

ВЯЛІКОДНЫЯ Й КАЛЯДНЫЯ ВІТАНЬНІ

Уладыкі Мітрапаліта Андрэя, духавенства й вернікаў Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы, атрыманы ад:

*Усяленскага Патрыярха Дэмэтрыюса*

*Нікалаоса VI Папы Патрыярха Александрыйскага*

*Патрыярха Бэнэдыкта Ерусалімскага 1980 г.*

*Патрыярха Ігнатіоса IV Антыяхійскага*

*Мітрапаліта Васіліюса Сакратара Ўсяленскага Патрыярхату*

*Архіяпіскапа Яковаса, Экзарха Канстантынопальскага Патрыярха на Амэрыку*

*Архіяпіскапа Хрызастома Кіпрынскага*

*Архіяпіскапа Мэтодіоса, Экзарха Канстантынопалькага Патрыярха ў Вялікай Брытаніі*

*Мітрапаліта Мсьціслава Украінскае Праваслаўнае Царквы ў ЗША*

*Япіскапа Яна Міртіна, Карпата-Рускае Праваслаўнае Царквы*

*Япіскапа Домэтіяна Амэрыка-Балгарскае Усходняе Праваслаўнае Царквы на ЗША, Канаду й Аўстралію*

# Хіратонія

*(працяг з 4-й бачынкі)*

На заканчэньне Уладыка Мітрапаліт Андрэй яшчэ раз дзякаваў усім за братэрскую дапамогу ў гэтай гістарычнай падзеі Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы.

Малітвай „Магутны Божа" і багаславенствам Уладыкаў закончыліся ўрачыстасьці хіратоніі.

– *Протапрасьвіцер а. Васіль Кендыш*

# Гісторыя НАРБУТА

Рэдакцыя газэты „Беларускі Час" ёсьць уласьнікам мікрафільму ўсіх 9ці тамоў Гісторыі Літоўскага Народу Х. Нарбута. Зацікаўленыя, ў справе рэпрадукцыі гісторыі Нарбута (з мікрафільму на паперу), могуць зьвяртацца ў гэтай справе да Рэдакцыі газэты „Б. Час". – *РЭДАКЦЫЯ Б. ЧАСУ*

# ПАДЗЕІ ПАЎТАРАЮЦЦА

Мы ўсе добра ведаем і сумуем над тым, што ў нас няма дакладна апрацаванае гісторыі Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы й што гістарычныя рэлігійныя дакумэнты панішчаны, або знаходзяцца недаступнымі для нашага карыстаньня. Мы нават ня ведаем колькі зьнішчана нашага духавенства, якія змагаліся за веру й праўду Божую ды за чалавечыя правы Беларускага Нарду. За доказ гэтаму мы можам узяць толькі ведамых нам мучанікаў як Афанасія Берасьцейскага, Мітрапаліта Варлаама Магілеўскага, які ў 1812–1813 г.г. аднавіў БАПЦаркву, за што быў высланы маскоўскаю ўладаю ў манастыр і там закончыў у муках сваё зямное жыцьцё. Ведаем пра мучанікаў Мітрапаліта Мельхіседэка Менскага, Япіскапа Яна Слуцкага, Філарэта Бабруйскага, якія ў неспрыяльных умовах аднавілі ў Менску Беларускую Праваслаўную Царкву й за гэта заплацілі мучаніцкаю сьмерцьцю, але ня маем імёнаў загінуўшых сьвятароў і вернікаў, якія загінулі ў змаганьні ў часе будовы й аднаўленьня БАПЦарквы.

Да такіх незабыўных аднаўленцаў належаць і тыя, якія ў 1948 годзе аднавілі нашую асірочаную Сьвятую Царкву. Цяжкою, вельмі цяжкою была іхняя праца. Праводзілася яна ў вельмі неспрыяльных умовах. Аднак вера, моцны дух і самаахвярнасьць перамаглі ўсе перашкоды, бо яны ведалі, што родная Царква ёсьць найбольшым скарбам нашага народу, славаю й абаронцам яго.

Дзякуючы гэтаму запалу, энтузыязму й самаахвярнасьці, БАПЦарква на эміграцыі была адноўлена. Паўсталі нашыя прыгожыя храмы, зьявілася ахвярнае духавенства й БАПЦарква закрасавала ў роўным стане, у роўнай сіле ўсіх народаў.

Аднак супакой трываў нядоўга, бо йзноў падулі сіверныя вятры. Варожыя сілы не маглі пагадзіцца, што мы молімся да Бога за свой Беларускі Народ, таму пачалі гатовіцца да больш падступнае й зьнішчальнае працы каб зьнішчыць царкоўнае кіраўніцтва, а адроджаную БАП Царкву падпарадкаваць сабе. Першы атак быў скірованы на Парафію ў Катэдральным Саборы ў Брукліне, якая знаходзілася пад кіраўніцтвам сьв. памяці Ўладыкі Васіля. У парафію быў накіраваны, належачы да маскоўскае Патрыярхіі дыякан Юры Абрэмскі, першаю мэтаю якога было здабыць сабе прыхільнікаў у парафіі й прымусіць Уладыку Васіля адыйсьці ад кіраўніцтва БАПЦарквою, а праз гэта ўжо развал у БАПЦ быў-бы забясьпечаны.

Сталая прыналежнасьць і ляяльнасьць а. Абрэмскага да маскоўскай Царквы яўна відаць з таго, што будучы сьвятаром БАПЦ, а. Абрэмскі часам служыў у прыходзе маскоўскай Царквы ў Нью Ёрку дзе яго бачылі некаторыя нашыя прыхажане і дзе, будучы сьвятаром БАПЦ, ён атрымаў Мітру ад маскоўскай Царквы.

Разбуральная дзейнасьць Абрэмскага здавалася-б павінна быць зразумелаю для ўсіх, аднак нават шчырыя й дзейныя аўтакефалісты не зразумелі, бо лічылі, што тут справа не ў развале царквы, а ў непаразуменьнях паміж Парафіяльнаю Радаю і Ўладыкам Васілём. Таму кіраўнікі, што пашыралі непаразуменьні цьвердзілі, што яны ня хочуць развяліць царкву, а толькі хочуць яе ўзмоцніць, а развальвае яе ніхто іншы як Уладыка Васіль. Яны карысталіся такімі лозунгамі: „Мы яму не плацім, бо мы гаспадары парафіі... Ён уважае сябе Настаяцелем, тады, як мы назначылі Настаяцелем а. Юрыя. Не нашая справа слухаць Уладыкі, бо ён ня слухае нас. Мы жывём у Амэрыцы, тут дэмакрацыя й Уладыка мусіць слухаць нас, а калі ня хоча няхай адыходзіць... Ня добра мы робім, ломячы царкоўныя правілы, што прымаем новых парафіянаў без згоды Ўладыкі? Але мы гаспадары, а падругое наш Настаяцель а. Юры згодны з намі ў гэтым. Падругое мы добра робім, што склікаем сходы парафіі бяз ведама й багаславенства Уладыкі, бо нам іх багаслаўляе а. Юры. Пазбаўляць сану а. Юрыя таксама ня меў права Ўладыка, бо мы супроць гэтага."

„Вось-жа, як бачыце мы не супроць Уладыкі Васіля, не; і цяпер мы вызнаём яго, толькі няхай разумее, што мы гаспадары, і ён павінен слухаць нас. Мы яму часта пагражалі, у Царкву хацелі не ўпусьціць? А што-ж тут дзіўнага? Чаму ён ня слухае нас, як гаспадароў? Чаму ня хоча зразумець асноваў дэмакрацыі? Не пазволілі Ўладыцы склікаць Надзвычайны Сход? Так не пазволілі бо дурныя людзі маглі-б паслухаць яго, і ён бы меў бальшыню галасоў. Гэта пярэчыць статуту? Магчыма, ўле гэта ня важна, бо мы самі статут!"

Мы тут падалі толькі малую частку бязпыннага ламаньня царкоўных правілаў, закону й Статуту нашае Сьв. БАПЦарквы гэткімі гаспадарамі. (*Голас Царквы*, №36, Сьнежань 1967 г.).

* * *

Так дзеялася тады толькі ў аднэй парафіі БАПЦ ў Брукліне. Ад таго часу ўплыло ўжо 13 год. Ці не дуюць тыя самыя сіверскія вятры й цяпер? Так, напэўна дуюць, ды яшчэ з большаю сілаю, бо калі раней бушавалі яны толькі ў аднэй Бруклінскай Парафіі, то цяпер бушуюць амаль ува ўсіх парафіях БАПЦ ў Амэрыцы. Бушуюць плянова навакола каб зьліквідаваць наш Скарб, нашую Сьвятыню.

З гэтаю мэтаю ў Амэрыцы забушавала новая абрэмкаўшчына, якая самавольна склікае сходы, піша рэзалюцыі, дамагаецца зьмены правячага Япіскапа й сяброў Кансысторыі, якія былі выбраныя на Агульным Саборы БАПЦ, бо нібы вернікі гэта ўсё, іх павінен слухаць Першаярарх бо жывём мы ў Амэрыцы, тут дэмакрацыя й калі нас ня хоча слухаць Першаярарх, то хоць ён і быў выбраны на Саборы прадстаўнікамі ад усіх парафіяў, то няхай адыходзіць!

Лёзунгі новай абрэмкаўшчыны падобныя да лёзунгаў папярэдняй: „Ня трэба нам новых Япіскапаў, бо ў нас ёсьць а. Аляксандар, ён Мітрапаліту не падпарадкуецца й ня слухае яго, а нас будзе слухаць, мы яго любім бо ён прыгожы, а таму недапусьцім каб яго ад нас забралі ў другую парафію. Ня важна й тое, што на Агульным Саборы БАПЦ ў 1972 годзе быў зацьверджаны Статут БАПЦ. Мы яго не прызнаем, а таму й не плацім сяброўскіх складак у Кансысторыю, аб чым была пастанова на Агульным Саборы. Ня трэба нам Кансысторыяў ні Радаў, мы ёсьць самі Рада, права,

*(працяг на 8-й бачыньцы)*

# EDITORIAL

### TURMOIL IN THE B.A.O.C. HAS A FAMILIAR FACE

The revolutionary events in the Byelorussian Autocephalic Orthodox Church (BAOC) may be summarized as follows: (1) A senior hierarch, Metropolitan Andrew, dismissed a priest from a parish in his diocese and appointed another priest to that parish; (2) The parishioners rebelled against the change of priests; (3) A junior hierarch, Archbishop Mikakay, attempted to oust the senior hierarch; (4) The revolt against Metropolitan Andrew spread to other parishes.

It seems incredible that a routine change of priests by the governing bishop could have initiated all these events and that it has lead to emotional outbursts against the head of the church by some parishioners and non-parishioners. After all, all matters of the church discipline in the BAOC belong strictly to the hierarchy.

Even more incredible is the nature of the parishioners' "revolt". People who have rarely attended church in the past, now become the most vocal prophets of the new order in which the "people" control the church, hire and fire the clergy.

Perhaps the most significant aspect of the revolt is a call for a change of jurisdiction, or, in other words, a call to dismantle the BAOC.

Seasoned observers, people who have been intimately associated with the church for thirty or more years and who can qualify as experts, generally believe that the present turmoil in the BAOC is externally caused and represents a continuation and a close copy of the turmoil that shook the BAOC in the late 1960's. At that time Reverend Obremski was instrumental in instigating the parishioners of St. Cyril's of Turov Parish in Brooklyn to rebel against Bishop Vasili who then was head of the BAOC in the U.S. and Canada. Rev. Obremski had persuaded some parishioners that they, by a majority vote, had the power to rule over the governing bishop. This matter was finally settled in court and the faction that had rebelled against their bishop was forced to leave the jurisdiction of the BAOC.

With respect to Rev. Obremski there have been allegations that his soul was not in the Byelorussian Church and that his allegiance remained with the Muscovite Church (jurisdiction of the Moscow Patriarch) from which he came. Apparently Rev. Obremski continued to perform services in the Muscovite Church while a priest in the BAOC and during that turmoil was awarded a Miter by the Muscovite Church. Soon after the conclusion of the litigation Rev. Obremski died under strange circumstances.

Now, more that ten years later, history is repeating itself. Again some persons preach rebellion against the present head of the BAOC, Metropolitan Andrew, attempt to convince the parishioners that they, by a majority vote, have the power to rule over the Metropolitan and also that they have the right to change and choose the jurisdiction to which the parish belongs.

As a background to these events it is important to review the known facts pertaining to Moscow's attempts to secure for itself a position of leadership over all Orthodox Churches. The Moscow-backed proposal to call the General Sobor of all Orthodox Churches has gained momentum during the past four years and today has to be considered as a serious possibility and as a threat to the Orthodox Church. The primary opposition to the calling of such Sobor comes from the Greek Church and the Ecumenical Patriarch of Constantinople who has the most to lose if such Moscow-dominated Sobor is called where his position and authority will be seriously threatened.

A very important item which has high priority in the Muscovite Church is the question of the national churches, such as the BAOC, which have emerged or re-emerged, after the Second World War. It is no secret that Moscow wants them eliminated especially now when there is a possibility that Moscow will succeed in calling the General Sobor which it will probably dominate and control.

It is thus no accident that the turmoil in the BAOC has been revived at this time, that the otherwise good and well-intentioned perishioners have been incited to rebel against their bishop and the head of the Church by demagogues who preach a version of "democracy" according to which the parishioners rule over the hierarchy and even have the right to choose the jurisdiction to which the parish belongs. No doubt the Muscovite Church is well pleased with these results, for even if in the end it does not win, it will have created lasting divisions within the BAOC.




*ЗАЎВАГА: Карыкатура каторая друкавалася ў папярэднім нумары „Беларускага ЧАСу" карысталася вялікім посьпехам. Невядомыя людзі яе падраблялі, мянялі надпісы й ананімна разсылалі.*

# ТРЫВОЖНАЯ СПРАВА

## ДА ІДЭІ СКЛІКАНЬНЯ ЎСЕПРАВАСЛАЎНАГА САБОРУ

Паралельна да свае, закроенае на сусьветны маштаб, палітычнае акцыі Масква вядзе і рашучы, праўда замаскаваны, наступ і на рэлігійнай ніве. Апошнімі гадамі яе „работа" адносна Праваслаўя стала зарысоўвацца выяўней. Тут, як відаць, залежыць ёй на тым у першую чаргу, каб падарваць аўтарытэт Канстантынопаля, а вельмі магчыма навет давесьці да поўнай ліквідацыі Экумэнічнага Патрыярхату, як інстытуцыі аджыўшай свой час.

Гэта вельмі трывожная справа, бо запраўды становішча Экумэнічнага Патрыярха ўжо звыш 500 год (ад здабыцьця Канстантынопаля Туркамі ў 1453 г.) мае больш сымбалічны, чымся рэальны характар: фактычна яму падлягае толькі адна Грэцкая Царква, ды такія Цэрквы-сіроты, што ня маюць свае Маці-Царквы, як пр. наша Беларуская А.П.Царква, Украінская Пр. Царква, і т.д. (Як ведама, так наша, як і Украінская Маці-Царква, былі зьнішчаны Масквою). Вось гэта, хоць і пераважна сымбалічная, апека над Цэрквамі-сіротамі, існаваньне якіх – соль у воку Масквы, і ёсьць як відаць той дадатковай прычынай маскоўскай кампаніі супроць Канстантынопаля. У запраўднасьці, бязумоўна, акцыя Масквы скіраваная супрць Беларускай і Украінскай Царквы.

У такім сьвятле і прыходзіцца разумець шырака заплянаваную акцыю падрыхтоўкі да скліканьня г.зв. Усеправаслаўнага Сабору. Ідэя такога Сабору ўступіла ў стадыю рэалізацыі ў 1977 г.. Яго фактычная ініцыятарка, Масква, згодна са сваёй агульнай тактыкай, трымаецца дыскрэтна збоку, у цяньку, а публічна выступаюць яе адданыя служкі. Адным з такіх ёсьць япіскап Фінляндзкай Правасл. Царквы, Паўла, які дня 5 траўня 1979 г., у Швэцыі прачытаў прынагодны рэфэрат на тэму „Праваслаўе ў расьсеяньні". Справа таго „расьсеяньня" стаіць першым пунктам на прапанаваным парадку дня Сабору.

Вось-жа з таго рэфэрату выглядае, што Маскве вельмі руціць справа праваслаўнага „расьсеяньня", якое паўстала ў выніку эміграцыі праваслаўных на захад Эўропы, у Амэрыку ды ў Аўстралію, пасьля дзьвух сусьветных войнаў. Як відаць, ёй дужа баліць, што „сьцьверджаньне Праваслаўя паважна паслабленае тым, што праваслаўныя бытуюць падзеленыя па нацыянальнасьці або царкоўнымі юрысдыкцыямі. У бальшыні выпадкаў яны не аб'яднаныя, г.зн. не пазначаныя супольнасьцяй, ня кажучы ўжо нічога пра судзеяньне Праваслаўя".[1]

Каб выведаць, як ставяцца да гэтага важнага пытаньня Цэрквы-Маці, ініцыятары Сабору даручылі „вывучэньне і высьненьне яго" наступным чатыром Патрыярхам: (1) Канстантынопальскаму, (2) Маскоўскаму, (3) Антыяхійскаму і (4) Румынскаму, а таксама Грэцкай Царкве. Вось-жа япіскап Паўла і рэфэруе, што з гэтага ўсяго вышла. Аказваецца, што прапановы да вырашэньня гэтага пытаньня атрыманы толькі ад трох Патрыярхатаў–Маскоўскага, Антыяхійскага і Румынскага. Ні Экумэнічны Патрыярх, ані Грэцкая Царква не далі ніякага адказу – гэта ўжо само-сабой шмат гаворыць.

Але яшчэ больш гаворыць факт, што прыслаў свой праект Патрыярхат Александрыйскі – зусім без запросу – у якім ён вырашае справу зусім інакш, чымся тры іншыя Патрыярхаты, а менавіта: „Усе геаграфічныя абшары, што знаходзяцца паза межамі Аўтакефальных Цэркваў, падлягаюць кіраўніцтву Канстантынопальскага пасаду, г. зн. усё расьсеяньне сьвету ёсьць у юрысдыкцыі Экумэнічнага Патрыярхату..." Кананічная падстава гэтага цьверджаньня – 28-ае правіла чацьвертага Ўсяленскага Сабору. На гэтай падставе сучасны стан падляганьня Цэркваў „расьсеяньня" сваім Аўтакефальным Цэрквам-Мацерам, з якіх вышлі вернікі расьсеяньня, уважаецца за некананічны. Выглядае, што гэта ідэя аб'яднаньня ўсяго праваслаўнага „расьсеяньня" круга Экумэнічнага пасаду і ёсьць афіцыйным адказам Канстантынопаля на маскоўскую акцыю яго паніжэньня і магчымай навет элімінацыі. Гэта ідэя, бязумоўна, таксама адпавядае афіцыйнаму становішчу кіраўніцтва Беларускай А. П. Царквы ў гэтай справе.

З прапановаў Антыяхійскага Патрыярхата ёсьць пажаданьне, каб Сабор прызнаў усе Праваслаўныя Цэрквы ў расьсеяньні; іншыя выклікаюць засьцярогі. Румынскі праект прагалошвае „права кажнай Аўтакефальнай Царквы-Маці кіраваць сваім расьсеяньнем" – гэта яўна ідзе ў разрэз з прынцыпам экумэнізму Канстантынопальскага пасаду. За гэта моцна яго хваліць ад імя сваіх паноў япіскап Паўла.

Але далёка найцікавейшым з усіх праектаў ёсьць маскоўскі, а найважнейшая яго частка, як і трэба спадзявацца, гэта падрабязныя прапановы да разьвязкі праблемы праваслаўнага „расьсеяньня" ў Амэрыцы – дае яна ажно тры варыянты такой разьвязкі. Галоўны сэнс іх такі:

*Варыянт I:* а) Усе Цэрквы прызнаюць аўтакефалію Праваслаўнай Царквы ў Амэрыцы (расейскай) – камэнтар тут лішні. Цяпер становіцца ясным, чаму Масква ўрэшце наважыла прызнаць аўтакефалію Расейскай Зарубежнай Царквы ў 1970 г.. б) Канстантынопаль прызнае аўтакефалію свайму Экзарху ў Паўночнай Амэрыцы. Гэтым Экумэнічны Патрыярх траціць уладу над Грэцкай Царквою ў Амэрыцы – важны ход у маскоўскай стратэгіі. в) Дзьве Аўтакефальныя Праваслаўныя Цэрквы Амэрыкі, г.зн. Расейская і Грэцкая, злучаюцца ў адну Царкву. Бязумоўна, расейская, як мацнейшая, будзе дамінаваць. г) Усе іншыя Праваслаўныя Цэрквы Амэрыкі маюць прызнаць і далучыцца да гэтай адзінай Царквы. Ізноў-жа камэнтар лішні, бо вядома хто будзе правіць. д) Кіраўніку тае аб'яднанай Праваслаўнай Царквы Амэрыкі прадбачваецца тытул патрыярха.

*Варыянт II:* Утвараецца ў Амэрыцы адмысловая Ўсеправаслаўная Камісія з удзелам прадстаўнікоў ад усіх Цэркваў (мацярынскіх і інш.), ад усіх юрысдыкцыяў, нацыянальных групаў, царкоўных арганізацыяў, і т.п.. Яна мае апрацаваць і прадставіць Сабору да канчатковай пастановы дакладны плян разьвязкі

*(працяг на 8-й бачынцы)*

# У Парафіі Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне

### 7 сакавіка
### САБОР ЯПІСКАПАЎ БАПЦ

У суботу 7-га сакавіка 1981 г. ў Катэдральным Саборы Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне адбыўся Сабор Япіскапаў БАПЦ. На Саборы былі прысутныя:

1) Мітрапаліт Андрэй
2) Япіскап Ізяслаў
3) Мітр. Прат. а. Васіль Кендыш як сакратар Сабору Япіскапаў
4) Айцец Расьціслаў Войтэнка
5) Сп. Валентын Гарошка як адвакат Кансысторыі

Сабор Япіскапаў у сваёй пастанове:

1) абвінавачвае Архіяпіскапа Мікалая за ягонае ўмешваньне ў справы Амэрыканскай Епархіі якая належыць да Мітрапаліта Андрэя й патрабуе ад Архіяпіскапа Мікалая пакаяньня й прызнаньня сваіх памылак;

2) зацьвердзіў Цэнтральнае Кіраўніцтва Брацтва й Сястрыцтва пры БАПЦ, як праўна дзеючы орган;

Сабор Япіскапаў далей пастанавіў:

3) што новахіратанізаваны Япіскап Ізяслаў прызначаецца Заступнікам Першага Герарха згодна з параграфам №16 Статуту БАПЦ, з сядзібай у царкоўным доме парафіі Жыровіцкае Божае Маці ў Гайлэнд Парк, Ню Джэрзі;

4) прызнаць Уладыку Мітрапаліту Андрэю тытул Блажэнны, узнагарадзіць Мітр. Прат. Васіля Кендыша тытулам Пратапрасьвіцера, а. Яна Пекарскага Пратаярэям і а. Расьціслава Войтэнка набедранікам.

* * *

### 8 сакавіка
### АЙЦЕЦ РАСЬЦІСЛАЎ НАЗНАЧАНЫ НАСТАЯЦЕЛЯМ

Пасьля ўрачыстае Божае Службы якую ачоліў Блажэнны Мітрапаліт Андрэй у саслужэньні Япіскапа Ізяслава, Протапр. Васіля Кендыша й а. Расьціслава Войтэнка, адбыўся абед у парафіяльнай залі – так званыя „бліны". Пад час гэтага абеду Мітрапаліт Андрэй паведаміў прысутных што а. Расьціслаў назначаны Настаяцелям прыходу Сьв. Кірылы Тураўскага, перанмаючы гэтую функцыю ад Мітр. Прат. а. Васіля Кендыша, сакратара Кансысторыі БАПЦ.

* * *

### 22 сакавіка
### ПАРАФІЯЛЬНЫ СХОД

22 сакавіка 1981 г. адбыўся парафіяльны сход Парафіі Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне. Сход быў скліканы Мітр. Прат. а. Васілём Кендышам і старшынёю парафіяльнае рады, Сп. У. Курылам.

На самым канцы сходу, пасьля выбараў парафіяльнае рады й рэвізыйнае камісіі, Сп. У. Русак, старшыня сходу, прачытаў рэзалюцыю аб зьмене юрысдыкцыі, пераходзе парафіі да Архіяпіскапа Мікалая й няпрызнаньню Япіскапа Ізяслава, ды недаючы нікому ніякага слова ў гэтай справе адразу паставіў рэзалюцыю да галасаваньня якая нібыто была прынята бальшынёю галасоў прысутных і ўпаўнаважаньняў. Упаўнаважаньні, якія былі даныя на падставе наперад ведамага парадку дня у якім ня было пункту аб зьмене юрыздыкцыі, карысталіся пры галасаваньні за гэтую рэзалюцыю.

Правядзеньне гэтай рэзалюцыі, што абазначае бунт супраць Мітрапаліта й БАПЦарквы й спосаб яе правядзеньня далі Мітрапаліту падставу незацьвердзіць выбраную управу і ўсе пастановы сходу. На мейсца выбранае ўправы Мітрапаліт назначыў часовую парафіяльную раду.

* * *

### 29 сакавіка
### МІЦКЕВІЧ І РУСАК АДЛУЧАНЫЯ АД ЦАРКВЫ

29 сакавіка 1981 г. парафію наведаў Вікарны Япіскап і заступнік Мітрапаліта Япіскап Ізяслаў і ў саслужэньні Настаяцнля а. Расьціслава адслужылі ўрачыстую архірэйскую Божую Службу.

Пасьля Службы, Настаяцель парафіі паведаміў парафіянаў, што Спадары Аляксандар Міцкевіч і Уладзімір Русак былі адлучаны ад БАПЦарквы (экскамунікованы) Мітрапалітам за іхную рэвалюцыйную дзейнасьць супраць Царквы.

### АКАДЭМІЯ 25-га САКАВІКА

У гэты самы дзень, пасьля Божае Службы ў царкоўнай залі прыходу Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне адбылася акадэмія прысьвечаная ўгодкам незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі. Аднак арганізатары гэтае акадэміі (БАЗА), карыстаючыся царкоўным памешканьнем, ня лічылі патрэбным запрасіць на акадэмію духавенства БАПЦ а запрасілі сьвятара іншае юрысдыкцыі. Таксама, арганізатары гэтае акадэміі падалі інфармацыю у расейскую газэту „Новое Русское Слово" дзе было напісана, што акадэмія прысьвячаецца ўгодкам Беларускай Савецкай Рэспублікі.

Дзеля гэтых прычынаў якія зводзяцца да зьнявагі БАПЦ і БНР, ані Япіскап Ізяслаў, ані айцец Расьціслаў, ані многія парафіяне БАПЦ з Ню Ёрку й Ню Джэрзі не пайшлі на акадэмію, а пасьля заканчэньня Божае Службы паехалі дадому.

Ніжэй друкуецца першы й апошні сказ з вышэй успомненага паведамленьня ў расейскай газэце „Новое Русское Слово" з дня 28-га сакавіка 1981 г.:

> **В воскресенье, 29 марта в 1 час дня Белорусский гражданский и религиозный центр (401 Атлантик авеню, Бруклин) проводит собрание по случаю 63-й годовщины создания Белорусской советской республики.**
>
> **Собрание [illegible]**
>
> **Белорусский гражданский и религиозный центр приглашает всех желающих на митинг. Справки по тел. (212) 397-5341.**

Падобнае зьявішча здарылася ў Клівэлэндзе ў 1980 годзе падчас Сустрэчы Беларусаў Паўночнай Амэрыкі, галоўным арганізатарам каторай была Б.А.З.А. У праграме Сустрэчы была надрукаваная мапа Савецкай Беларусі, падпісаная „Беларусь", якая выклікала шырокае абурэньне сярод удзельнікаў Сустрэчы.

* * *

### 9 красавіка

Суд забараніў экскамнікаваным Аляксандру Міцкевічу й Уладзіміру Русаку ўступ да царкоўнага будынку на 401 Атлянтык Эвэню ў Брукліне да часу вырашэньня справы.

# Папера Церпіць Усё

Вось такое перакананьне вытварылася ў людзей пішучых у газэты ды яшчэ аб важных прынцыповых справах дачычачых цэлыя групы грамадзкасьці і, ня гледзячы на гэтае, ужываючых нейкія псэўданімы або хаваючыся за чужымі плячыма. Яны падаюць паведамленьні-камунікаты, ужываюць ніколі нячутыя псэўданімы, як і тыя што пішуць аб менш важных рэчах, напрыклад, аб пікніку ці блінах. І вось падпісаўшы сваё паведамленьне-камунікат псэўданімам, такія аўтары ўважаюць, што яны могуць пісаць ўсё што „ім сьлінка на язык прынясе".

Здарылася гэта ўжо ў №283–284 газэты *Беларус* у рубрыцы з царкоўнага жыцьця дзе аўтар, падпісаўшыся „Парафіяльная рада", піша аб незаконных „нарадах парафіяльных старшыняў і выбраных прадстаўнікоў", аб пераходзе парафіі да Епархіі Архіяпіскапа Мікалая й г.д. Апісваючы гэтае, ён толькі мімаходам і сарамліва заўважае, што гэтыя падзеі былі выкліканыя непаразуменьнямі ў парафіі ў Гайленд Парк, але зьмест гэтых непаразуменьняў аўтар абыйшоў маўчанкай.

Паўтарылася падобнае ў №287 тего-ж *Беларуса* калі нейкі „Н. Дж-скі" пачаў сьлёзна скардзіцца, што а. Ян Бруцкі і Віктар Лосік пачалі „другую судовую справу супраць Парафіі". „Н. Дж-скі" далей піша, што агульны сход „даручыў парафіяльнай радзе прадстаўляць справу ад імя парафіі перад судовымі ўладамі." У выпадку калі-б „Н. Дж-скі" меў адвагу падпісаць гэтае сваім уласным прозьвішчам, дык мажліва ён быў-бы змушаны апісаць як фактычна прадстаўляецца гэтая спраыа, а менавіта:

Па першае, ніхто не пачынаў „другое справы", а папросту гэта ёсьць працяг справы распачатай каля году таму якая, з прычыны ўмяшаньня Архіяпіскапа Мікалая, дагэтуль яшчэ ёсьць незаконченая. Па другое, ніхто ня судзіць Парафію але толькі тых асобаў якія не падпарадкаваліся распараджаньням правячага Ерарха, зламалі закон Сьв. Праваслаўнай Царквы й статут БАПЦ. Па трэцяе, пашто яшчэ было сходу „даручаць" сябром парафіяльнай рады „прадстаўляць парафію перад судом" калі судовыя ўлады, ад самага пачатку справы, ведаюць імёны абвінавачаных і іх паклічуць.

Як у першым так і ў другім паведамленьні ў газэце *Беларус* гаворыцца аб нейкіх не акрэсьленых непаладках і непаразуменьнях. Аднак характар гэтых непаразуменьняў упарта замоўчваецца ананімнымі аўтарамі. Дзеля высьвятленьня, падаецца наступнае:

Памінаючы тое, што а. Яноўскі ад даўжэйшага часу ігнаруе ўсе распараджаньні й загады Блажэннага Мітрапаліта Андрэя, судовая справа пачалася толькі тады калі ў Царкву Жыровіцкай Божай Маці ў Гайленд Парк сілай былі недапушчаны прызначаны Настаяцель а. Ян Бруцкі (сёньняшні Япіскап Ізяслаў) і група парафіянаў верных Мітрапаліту Андрэю. Сярод недапушчаных у Царкву парафіянаў ёсьць і такія якія актыўна дапамагалі ў аднаўленьні Аўтакефаліі БАПЦ і якія ўнесьлі ў Царкву Жыровіцкае Божае Маці сваю цяжкую самаахвярную працу й грашовыя сродкі. Гэтым ня могуць пахваліцца многія з сёньняшніх крыкуноў.

Дык мімаволі паўстае пытаньне, як-жа маглі абыйсьціся бяз суду пакрыўджаныя калі іх крыўды засталіся толькі біблійным „голасам на пустыні", а ў дадатку, калі Ўладыка Мікалай цалком стаў па старане крыўдзячых.

Трэба думаць, што „Н. Дж-скі" пішучы аб „даручэньнях", мякка кажучы, папросту займаецца дэмагогіяй. Бо й ня жарты-ж. Глядзіце якія яны гэроі. Яны падстаўляюць свае галовы перад судом „па вашаму даручэньню". Але йзноў-жа „Дж-скі" змоўчвае факт, што суд іх выкліча (каго трэба) і бяз ніякіх даручэньняў.

Бязумоўна, што Сабор Япіскапаў мог-бы вырашыць (ужо вырашыў – *рэдакцыя*) гэтую справу. Але ці „Н. Дж-скі" ўпэўнены што на гэты Сабор прыедзе Ўладыка Мікалай або ці пастановы гэтага Сабору выканае а. Яноўскі бяз судовых санкцыяў?

Хочацца верыць, што ў будучыні ўсе камунікаты-паведамленьні будуць падпісваць поўным прозьвішчам аўтара. Гэта будзе на карысьць як чытачом так і пішучым.

*Віктар Лосік*
*Старшыня Парафіяльнай Рады*
*Прыход Жыровіцкай Божай Маці*
*Гайленд Парк, Ню Джэрзі*

# Трывожная Справа

*(працяг з 7-й бачынкі)*

пытаньня праваслаўнага расьсеяньня у Амэрыцы. Тут падыход да справы больш рацыянальны, чым у варыянце І – прынамся нічога нікому згары не накідаецца. Ізноў-жа ўсё пойдзе на ніштo, калі ў Камісіі гэтай будзе расейскае засільле, а гэтага цяжка будзе ўсьцерагчыся.

*Варыянт III:* Пытаньне пра агульнаправаслаўнае расьсеяньне ўносіцца беспасярэдне на разгляд Сабору, без папярэдняга абгавораньня на падрыхтоўчых камісіях. Пэўне, што Сабору будзе вельмі цяжка належна справіцца з гэтым складаным патаньнем. Прапанова гэта выглядае нерэальнай.

Як бачым, першы варыянт маскоўскай прапановы ёсьць найважнейшы, бо выяўна паказвае, да чаго папраўдзе Масква імкнецца: да прызнаньня Расейскай Царквы ўсімі іншымі, да яе ўзмацаваньня і разбудовы коштам іншых, да падпарадкаваньня ей усіх Цэркваў ды да ліквідацыі гэтых апошніх цераз абсорбцыю. Але ўсё гэта адно ўступ да яе далёкасяжнае мэты – ліквідацыі Экумэнічнага Патрыярхату і прысабечаньне яго функцыяў, а магчыма і тытулу, што ізноў-жа ёсьць адно невялікай часьцінай яе агульна-палітычных амбіцыяў у сусьветным маштабе.

З увагі на ўсё сказанае трэба лічыць падрыхтоўчую працу да скліканьня Усяленскага Сабору за справу нятолькі некарысную, але і запраўды небясьпечную для будучыні ўсяго Праваслаўя.

– – – – – – –

[1]) Цытую паводле артыкулу „Православні в розсіянні", *Українське Православно Слово*, №7–8, 1980, б.11. Усе далейшыя цытаты – з тае-ж крыніцы.

*– Цімох Дуб*

---

Рэдакцыйная Калегія газэты „БЕЛАРУСКІ ЧАС"
*шчыра вітае ўсё Духавенства БАПЦ,*
*ўсіх сваіх чытачоў, усіх беларусаў у чужых краінах сьвету прабываючых, ды ўвесь Беларускі Народ на Бацькаўшчыне,*
*зь ВЯЛІКАДНЕМ ХРЫСТОВАГА ЎВАСКРАСЕНЬНЯ.*
ХРЫСТОС УВАСКРОС!

---

## УПАКОІЎСЯ Ў БОГУ АРХІЯПІСКАП ОРЭСТ

У аўторак 14-га красавіка 1981 г. ў Ню Ёрку ўпакоіўся ў Богу сьв. пам. Уладыка Орэст Іванюк, Архіяпіскап Украінскае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы, Правячы Япіскап Заходняе Эўропы. Пакойнаму было 80 год.

Ул. Архіяпіскап Орэст (Онуфры Іванюк) нарадзіўся 25 чэрвеня 1900 г. ў гарадку Выжніца на Букавіне. Вышэйшую асьвету атрымаў на багаслоўскім і філасафічным факультэтах Чэрнавецкага Унівэрсытэту.

У 1926 годзе быў высьвячаны на дыякана і ў 1927 годзе на сьвятара япіскапам Іпалітам (Вробкевічам).

У 1947 годзе, ў Канадзе, на Оттаўскім Унівэрсытэце закончыў гуманістычны факультэт з тытулам магістра.

У 1965 годзе быў пастрыжаны ў манаства з імям Орэст. 28 верасьня 1969 г. быў хіратанізаваны на япіскапа. Хіратонію выканалі Блажэнны Мітрапаліт Мсьціслаў і Архіяпіскап Донат. У 1975 годзе быў павышаны ў сан Архіяпіскапа.

21 і 22 лютага 1981 г. прынімаў удзел у хіратоніі Япіскапа Ізяслава.

17 красавіка 1981 г. цела пакойнага Ўладыкі было прывезенае да Царквы-Памятніку ў Саўт Баўнд Брук, Ню Джэрзі. Літургію за супакой душы спачылага Ўладыкі Орэста адслужылі Ўл. Мітрапаліт Мсьціслаў, Першаерарх УПЦ і Ўл. Ізяслаў, Япіскап БАПЦ з удзелам васьмі сьвятароў.

Паховіны адбыліся пасьля заканчэньню Божае Службы на магільніку Сьв. Андрэя ў Баўнд Бруку.

## БЕЛАРУСКІ МУЗЭЙ БУДЗЕ АДКРЫТЫ Ў НЯМЕЧЧЫНЕ

У Нямеччыне, у горадзе Ляймэн, у 1982 г. будзе адкрыты Беларускі Музэй. Мэта музэя: сабраць беларускія выданьні, што былі выданыя ў Нямеччыне, а калі будзе мейсца, дык і тыя, што былі выданыя за мяжой, а таксама здымкі старых беларускіх рукапісаў, друкаў, і мастацкія рэчы.

У гэтым горадзе таксама будзе пабудаваны помнік па загінуўшых Беларусах у 1939–1945 г. Мейсца на помнік дае горад.

Варта яшчэ зазначыць і тое, што Беларускі Музэй і помнік будуць пад апекай гарадзкіх уладаў, што забясьпечыць іхняе існаваньне.

Калі хто хоча памагчы арганізаваць гэты музэй, хай піша на адрас паданы ніжэй:
Herrn Ch. Schuk
Goethestrasse 1
6906 Leimen 3
BRD (West Germany)

## ПАДЗЕІ ПАЎТАРАЮЦЦА

*(працяг з 6-й бачынкі)*

ўлада й суд."

Кожны сапраўдны вернік прачытаўшы гэта напэўна скажа, або падумае, што гэтак дзеецца таму, што ў нас брак веры ў Бога, бо калі мы не злучаныя з Богам, то Ён ня можа дапамагчы нам. Замест веры ў Бога, між абрэмкаўшчыкаў пануе палітычная гульня якая йдзе толькі на карысьць нашых маскоўскіх ворагаў.

# Новыя Кнігі

**1)** ЗАПІСЫ – Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва, Ню Ёрк. Том №16. Да зьместу ўключана наступнае: *Вітаўт Тумаш:* Дрэвызрыты наступніка ў Падарожнай Кніжцы Скарыны. *Vladimir Seduro:* The Problem of F. M. Dostoyevski's Origin. Успаміны *А. Раткевіча* й *Пётра Міраноўіча,* Зацемкі, Рэцэнзіі й Хроніка. Адрас рэдакцыі: ZAPISY, 3441 Tibbett Avenue, Bronx, N.Y. 10463, USA. Цана: 10 амэрыканскіх даляраў.

**2) An Introduction to Ukrainian History. Volume1: Ancient and Kievan-Galician Ukraine-Rus'** *by Nicholas L. Fr.-Chirovsky.* **Published in 1981 by the Philosophical Library, 200 West 57 Street, New York 10019. Price: $19.95.**

**3)** СЬЦЕРАЖ ВЕРЫ, Абежнік Брацтва й Сястрыцтва Сьвятога Кірылы Тураўскага БАПЦ. Ню Ёрк. Вышаў першы нумар за Вялікдзень 1981 году.

# Ад РЭДАКЦЫІ

Рэдакцыя паведамляе, што некаторыя артыкулы, якія меліся друкавацца ў гэтым нумары „Беларускага ЧАСу" будуць зьмешчаны ў наступных нумарох. Рэдакцыя цяпер перагружаная матэрыяламі якія вымагаюць хуткага выпуску друкам.

Пабольшанае зацікаўленьне газэтай сярод чытачоў, значна пабольшаная колькасьць падпішчыкаў і больш прыплыў матэрыялаў змушае нас адкладаць друк некаторых артыкулаў.

* * *

Прадаюцца гадавікі газэты *Беларускі ЧАС*. Цана аднаго гадавіка, уключаючы перасылку, 10 амэрыканскіх даляраў.

Просім зьвяртацца ў гэтай справе да рэдакцыі.

Выпісвайце й Пашырайце Ангельска-Беларускую Газэту „Беларускі Час"